

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993 МАЙ 26 СЕРАДА

№ 97 (532)

Цана 5 рублёў


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ БЕЛАПАН, РІД, БЕЛІНФАРМ І ЎЛАСНЫХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ»

### БЕЗ ГРЫФА «САКРЭТНА»

М.ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».

**Учора ў Палацы лёгкай атлетыкі СКА (пас. Усходні) урачыста адкрылася спецыялізаваная выстава «Абаронная прамысловасць і канверсія–93».**

Тут прадстаўлена прадукцыя буйнейшых прадпрыемстваў Беларусі двайнога прызначэння (раней прыхаваная пад шыльдай «абаронка» і таму невядомая часам нават у сваёй рэспубліцы).

На адкрытай пляцоўцы — розная тэхніка: машыны, цягачы, трубаўкладчыкі, палявыя кухні, рухавікі, ёмістасці.

У зале побач камп'ютэры і лялькі, прыцэлы і жаночыя ўпрыгожванні, прыборы і бытавая тэхніка. Канверсія ў дзеянні... Толькі неяк няўтульна робіцца, калі замест навукаёмістай канкурэнтаздольнай высокатэхналагічнай прадукцыі прадпрыемствы ВПК пачынаюць выпускаць тыя ж адвёрткі, няхай і з індыкатарам напружання. Сілы іх немалыя, а пра навуковы патэнцыял і казаць не прыходзіцца. Прадпрыемствы ВПК асвоілі і мірную прадукцыю: печы ЗВЧ, халадзільнікі, пральныя машыны. Перайсці поўнасцю на мірныя рэйкі яны не могуць. Трэба шукаць іншыя рынкі збыту, шырэй ісці на кааперацыю з замежнымі фірмамі, зацікаўленымі ў прадукцыі «абаронкі» Беларусі. Цікавасць да выставы з боку замежных фірм відавочная: дэлегацыі з дваццаці шасці краін наведалі выставу. У першы дзень яе наведаў В.Ф.Кебіч.

А страляючых экспанатаў на выставе няма, бо на Беларусі іх не робяць. Толькі прыцэлы з лазернай падсветкай, бронекамізэлькі ды трэнажоры агнявой падрыхтоўкі нагадвалі, што ўся тэхніка, выстаўленая тут, найсучаснейшыя тэхналогіі, сродкі сувязі, праграмы для ЭВМ, — састаўляючая частка для агромністай ваеннай машыны, накіраванай не на стварэнне, а на разбурэнне.

Зможа частка пражыць без цэлага? Знойдзе яна магчымасць выжыць, не страціць дасягнутага высокага ўзроўню? Будзем спадзявацца, што здолее, і сённяшняя выстава выканае ў гэтым станоўчую ролю.

☐ ШЧАСЛІВАЙ ДАРОГІ, ВЫПУСКНІКІ!



Учора адзвінеў апошні званок для вучаніцы 11 класа СШ № 33 г.Мінска Ганны Марчанка.

Фота А.ДРАЗДОВА.

### Яднаемся, каб выжыць

ТАЦЦЯНА ЛАЗОЎСКАЯ, «ДВ».

Днямі адбылося пасяджэнне арганізацыйнага камітэта Саюза грамадзян, якія пацярпелі ад юрыдычных і палітычных рэпрэсій у 80-90-ыя гады. У склад яго ўвайшлі Ларыса Перцава, Вячаслаў Якоўчык, Лідзія Палякова, Авіэта Гаварунова.

— Ва ўсіх нас падобныя лёсы. У выніку прававога бязмежжа, сфальсіфікаваных дакументаў мы звольнены з работы, абылганыя, фізічна і маральна растаптаныя. За многія гады барацьбы за свае грамадзянскія правы і чалавечую годнасць з чыноўніцка-бюракратычнай сістэмай, — гаворыць ініцыятар стварэння Саюза Ларыса Сяргееўна Перцава, — мы зрабілі вывад: у адзіночку мы нічога не даб'ёмся, нас проста задушаць. Таму наш аргкамітэт заклікае суайчыннікаў далучацца да нас, каб адстаяць свае чалавечыя, грамадзянскія правы.

Звязацца з членамі аргкамітэта вы зможаце па тэл.: 53-60-61, 79-30-40, 31-84-02.

☐ КОРАТКА

### У ЯКАСЦІ ПРАДУКТОВЫХ СУМАК — САМАЛЁТЫ

25 мая ў Мінск у рамках буйнамаштабнай гуманітарнай акцыі «Надзея — Экспрэс-2» прыбывае амерыканская дэлегацыя з вялікай партыяй гуманітарнага груза (прадукты харчавання) агульным коштам 23,8 мільёна долараў ЗША. У праграме візіту — сустрэчы з прадстаўнікамі кіраўніцтва Савета Міністраў і Міністэрства замежных спраў рэспублікі.

### У ПАГОНІ ЗА БЯГУЧЫМ МОМАНТАМ

**29–30 мая ў Мінску ў былым Доме палітасветы адбудзецца другі з'езд Партыі камуністаў Беларусі, у якую нядаўна ўлілася рэанімаваная Кампартыя Беларусі.**

**Каля 400 дэлегатаў заслухаюць даклад Палітвыканкама аб бягучым моманце, абмяркуюць праекты Праграмы і змяненняў у Статуце, выбяруць новыя кіруючыя органы. Не выключана, што назва аб'яднанай партыі будзе зменена на традыцыйную — КПБ.**

### ЧЕМ МЕНЬШЕ ЛЕСА — ТЕМ БОЛЬШЕ СВИНЦА В КРОВИ

Белорусская столица находится на грани экологической катастрофы,— к такому выводу пришли члены Минского отделения Белорусского экологического союза.

По данным экологов, около 20 процентов маленьких минчан имеют в крови повышенное содержание свинца. Почти такая же картина и с содержанием в крови ртути. Семьдесят процентов детей страдают сегодня пониженным иммунитетом. В числе причин, способствующих развитию такой ситуации, специалисты называют разрушение лесопаркового пояса Минска и водоохранных зон. Кстати, выделение земельных участков под индивидуальное строительство, которое нередко ведется бесконтрольно, только способствует ухудшению экологического состояния города: сегодня практически все пригородные лесополосы уничтожены.

Представители Минского отделения Белорусского экологического союза выступают за присоединение к Минску территории защитного лесопаркового пояса, доведения его до нормативных размеров, за немедленное прекращение уничтожения лесов и водоемов.

### «АВАНГАРД» І РЭЛІГІЯ СУМЯШЧАЛЬНЫЯ

Памінанне Царквой святых Кірылы і Мяфодзія і ў гэтым годзе вылілася ў вялікае свята. Гасцямі кінатэатра «Авангард», дзе яно праходзіла, былі супрацоўнікі дыпламатычнага корпуса, дзяржаўныя і царкоўныя дзеячы, прадстаўнікі палітычных партый і грамадскіх арганізацый. Праграма свята складалася з выступленняў духавенства і членаў Кірыла-Мефодзіеўскага Народнага Брацтва, дэманстрацыі кінастужак рэлігійнага характару і карцін мастака В.Агайкіна (жыхары Мінска знаёмы з яго творчасцю па афармленню станцыі метрапалітэна «Няміга»).

## КРИМИНАЛ

### ГОЛЫМИ РУКАМИ...

СЕРГЕЙ РАЧИЛА.(Пресс-центр УВД г.Минска).

**В понедельник поздно вечером, как обычно, заместитель начальника Центрального РОВД столицы подполковник А.Манюк возвращался домой. В районе улицы Плеханова он обратил внимание на двух дерущихся кавказцев. В руке одного из них блеснул пистолет...**

**Быстро оповестив патрульные наряды, Анатолий Владимирович «сел на хвост» уже отъехавшего «жигуленка» быстро примирившихся южан. У автовокзала «Восточный», к которому они подъехали (а здесь наряды милиции уже были готовы ), подполковник бросился навстречу вышедшим из салона кавказцам...**

**Личный пример руководителя всегда был для подчиненных лучшей профессиональной, человеческой и практической школой. Вот и на этот раз многие из молодых сержантов имели возможность видеть эталон задержания вооруженных правонарушителей, продемонстрированный асом столичного сыска. Хотя не возьмусь подсчитать, сколько сотен (!) таких эталонов в личном архиве Анатолия Владимировича.**

**Чуть позже у задержанных (42–летнего Саркисяна и 31–летнего Саргсяна) обнаружили и изъяли пистолет «браунинг» с пятью патронами (один из них был в патроннике, т.е. практически готов к «работе») и самодельный «дробовик» под охотничьи патроны с картечью...**

**И еще одна примечательная деталь. Навстречу этим «стволам» подполковник Манюк бросился безоружным...**

• В ПАРЛАМЕНТСКИХ КУЛУАРАХ

## НА СЛОВАХ ВСЕ «ЗА»

Владимир ГЛОД.

*Новая Конституция Республики Беларусь будет принята не раньше, чем за два–три дня до ... окончания срока полномочий депутатов. Такая точка зрения упорно муссируется в парламентских кулуарах. Причина одна — утвердить Основной Закон раньше невыгодно никому: ни левым, ни правым, ни центристам... Ведь следом за Конституцией необходимо принимать новый Закон о выборах. А где гарантия, что нынешние депутаты будут избраны вторично? Каково отношение к такому возможному варианту событий представителей различных парламентских фракций?*

Геннадий Козлов, объединение «Беларусь»:

— У нашей фракции установка одна — идти на быстрейшее принятие Конституции. Если бы мы действительно задались целью бойкотировать Основной Закон, то, поверьте, ни по одной статье больше ста голосов «за» никогда не набралось бы. Цифры показывают другое: из 47 рассмотренных на момент интервью статей 29 приняты конституционной нормой. Немного? Но ведь Конституция — особый закон, за каждой запятой которого стоят судьбы миллионов людей.

События должны выглядеть так — Конституция, Закон о президенте, при условии, что так решат парламентарии, Закон о выборах, сами выборы: президента и нового Верховного Совета. Если по каким-то позициям проекта Конституции найти консенсус не удастся, их нужно выносить на референдум. Больше того, лично я сторонник референдума по всей Конституции. Почему? Наш главный закон начинается словами: мы — народ Республики Беларусь. И здесь я испытываю определенные сомнения — с одной стороны, по закону депутаты представляют весь народ, с другой, скорее с моральной точки зрения, это не совсем так.

Владимир Шевцов, фракция «Согласие»:

— Если смотреть на проблему с точки зрения личной выгоды каждого депутата, то, бесспорно, кое-кому дотянуть до последних дней смысл есть. Но, надеюсь, что большинство все же ставит государственные интересы выше личных. При нынешнем положении Конституцию надо принимать быстрее. Члены нашей фракции поддерживают мнение исполкома Партии народного согласия, которая ставит вопрос о досрочных выборах парламента. Если бы «Согласие» пыталось любыми путями удержаться за депутатские места, то, естественно, этот вопрос мы бы не поднимали.

Олег Трусов, фракция Белорусской социал-демократической громады:

— Если Верховный Совет затянет принятие новой Конституции, то мы будем падать все глубже и глубже в яму, из которой потом придется долго выбираться. Похоже, так скорее всего, к сожалению, и будет. И дело не только в том, что большинство депутатов мечтает досидеть в парламентском зале до конца срока. Я убежден — этот парламент предлагаемую Конституцию даже в таком, не самом демократичном, варианте не примет.

Однако есть один «рычаг», который может резко изменить ситуацию. По прогнозам наших экспертов, к концу года ожидается резкий спад экономики, безработица. Россия выйдет на мировые цены, а наша промышленность к этому совершенно не готова. И если рабочие выйдут на площадь Независимости, то и Конституция будет принята, и новые выборы назначены.

Евгений Новиков, парламентская оппозиция БНФ:

— Представители Белорусского народного фронта — убежденные сторонники быстрейшего принятия Конституции и досрочных выборов. Хотя лично у меня позиция особая — я принципиально не участвую в голосовании по Основному Закону. На мой взгляд, Конституция должна стать логическим завершением всего законодательства. Мы же в очередной раз ставим телегу впереди лошади. Поэтому еще два года назад, когда рассматривались первые проекты Конституции, я предлагал назвать ее временной. Она никогда не будет стабильной, ибо нет стабильного фундамента, стабильных законов. Конституция — вершина пирамиды, вырастающая из законодательства. Уже сегодня многое в ней нужно менять. И «незыблемого» документа, по типу американской Конституции, из нее никогда не получится. Так разве можно голосовать за такую Конституцию?

Итак, «тянуть резину» никто не желает.

Что ж, остается только подождать, чтобы убедиться в верности слова делу.

## КАЛЯНДАР

*Серада, 26 мая (траўня).*

*СОНЦА — 4.51/21.22*

*Даўжыня дня — 16.30*

*МЕСЯЦ — першая квадра 28 мая*

*захад 0.38/усход 9.51*

*ІМЯНІНЫ:*

*Сёння:*

*Праваслаўныя: Аляксандра, Георгія, Глікеры, Ірыны, Макара.*

*Каталіцкія: Паўліны, Піліпа.*

*Заўтра:*

*Праваслаўныя: Лявона (Лянонція), Мікіты, Сідара (Ісідара).*

*УЗНЯСЕННЕ ГАСПОДНЯЕ.*

*Каталіцкія: Аўгустына (Аўгусціна), Юльяна.*





• ВПЕРВЫЕ

## ДЕТИ И БИЗНЕС

ТАТЬЯНА ЖУРАВЛЕВА, внештатный корреспондент «ДВ».

**В конце мая впервые в Беларуси Заводским райисполкомом г.Минска, комплексом внешкольной работы «Золак» будет проведена детская коммерческая ярмарка «Творчество юных».**

**Решение организовать детский фестиваль принято не случайно. Работники комплекса до того познакомились с работой своих коллег из России в области детского бизнеса, приняли участие в международном фестивале «Дети и бизнес», проводимом коммерческим банком «Восток». Запомнилась им надолго и русская ярмарка в Костроме. Много интересного и полезного почерпнули они и при совместном обсуждении с российскими коллегами программы «Хочу делать свое дело».После этого стало очевидно, что в Беларуси тоже необходимо создать банк данных детских коммерческих структур и как–то сдвинуть эту проблему с мертвой точки. Захотелось сделать праздник для детей и взрослых, на котором будет сочетаться духовность и предприимчивость, работа и отдых — ярмарку «Творчество юных».**

**Начнется празднество 28 мая с концертной программы «Давайте познакомимся», на которой участники ярмарки, творческие объединения, коммерческо–предпринимательские формирования, имеющие свое настоящее дело, к тому же увлеченные народным творчеством, увидят представление победителей конкурса «Улыбнись, звездочка», познакомятся с новыми песнями в исполнении Дмитрия Смольского.**

**Следующий день начнется с праздничного открытия самой ярмарки, на которой будут представлены работы, выполненные руками ребят. Круглый стол «Как развивать детский бизнес» пройдет в Заводском райисполкоме в 15.00. «Праздничные зарницы» с фейерверком, показательные выступления авиамоделистов, картингистов, мотокроссменов, спортсменов по водному слалому пройдут в парке 900–летия Минска. 30 мая в 10.00 в парке 50–летия Октября (стадион «Трактор») состоится благотворительный аукцион, деньги от которого пойдут на нужды детей–инвалидов. После аукциона — праздничное закрытие фестиваля.**

**Программа «Творчества юных», как видим, разнообразна, но направление одно — возрождение Беларуси. Ибо тот, кто хочет видеть свою Родину счастливой, должен понимать, что залог успеха нашего завтрашнего дня — в наших детях.**

**Тот, кого интересует более подробная информация о предстоящем празднике, может позвонить по телефону для справок: 43–66–12.**

• АНОНС

## І ЗНОЎ ЗАЗВІНІЦЬ «ГОЛАС ДЗЯЦІНСТВА»

А.ФЯДОТАЎ, ст.выкладчык Мінскага інстытута культуры, галоўны рэжысёр фестывалю.

**27 мая ў зале Палаца прафсаюзаў урачыста адкрыецца міжнародны фестываль дзіцячай творчасці «Голас дзяцінства».**

Упершыню арганізаваны беларускімі дзеячамі культуры ў 1991 годзе, ён сёлета праводзіцца ў Мінску ў трэці раз. Штогод на фестываль прыязджаюць дзіцячыя калектывы з розных рэспублік былога Саюза і другіх стран. Вось і на гэты раз «Голас дзяцінства» паклікаў на свята гасцей з Грэцыі, Расіі, Украіны, Латвіі.

Галоўная ідэя фестывалю: «Дзеці — нашчадкі і актыўныя ўдзельнікі адраджэння духоўнай самасвядомасці свайго народа». Таму акрэслілася і яго жанравая накіраванасць: народны танец і харавое мастацтва, адраджэнне народных абрадаў, гульняў і святаў.

Прыемна бачыць, што нашы замежныя славяне таксама пачынаюць адраджаць свае культурныя традыцыі, цікавяцца ўласнай спадчынай. Міжволі думаецца, як жа многа аб'ядноўвае славянскія народы, наколькі падобныя нашыя песні і абрады. У той жа час лёгка заўважаецца нешта сваё, адметнае, што трапна падкрэслівае нацыянальную своеасаблівасць юных выканаўцаў.

Фестываль не мае конкурснага накірунку. Ён не выяўляе лепшага з лепшых, але робіць больш высакародную справу. Дзіцячыя мастацкія калектывы сустракаюцца, сябруюць, абменьваюцца задумамі, мастацкімі пошукамі — гэта ўсё вельмі добра адбіваецца на творчасці. Але галоўнае яшчэ і ў тым, што людзі разумеюць: ёсць універсальная мова, якая без перакладчыка аб'ядноўвае ўсіх — гэта мова народнага мастацтва.

Беларускія калектывы «Зубраня», «Мульцік», «Весялушка», «Гарэзлівыя агеньчыкі», «Жалейка» і іншыя госці фестывалю запрашаюць усіх паслухаць «Голас дзяцінства».

Прыходзьце на свята, калі ласка!

• ФОТОФАКТ



**В республике создан новый координационно–совещательный орган — Белорусская конфедерация промышленников. Его учредителями стали Союз арендаторов и предпринимателей, Научно–промышленная ассоциация и Союз предпринимателей Беларуси. Они решили объединить свои усилия в содействии формированию и развитию цивилизованных рыночных отношений, предпринимательства и законотворчества.**

НА СНИМКЕ: за круглым столом учредители конфедерации.

Фото Аркадия НИКОЛАЕВА, БЕЛИНФОРМ.

• СИТУАЦИЯ

## Столбняк возвращается. Как будем встречать?

А.БЕЛОУС, «ДВ».

ПОХОЖЕ, предупреждения врачей ГорСЭС об ухудшающейся инфекционной обстановке в городе начинают материализоваться. На днях в инфекционной больнице скончалась женщина, пенсионерка. После вскрытия был поставлен диагноз — столбняк. Представьте себе, последний случай этого грозного заболевания был отмечен более сорока лет назад. И вот снова тревожный набат. Как удалось выяснить, эта женщина, копаясь на своем огороде, поранилась ржавым гвоздем. К медикам она обратилась чересчур поздно...

В эту же больницу спустя несколько дней, но уже с другим диагнозом, было помещено еще семь человек. Врачи обнаружили у пациентов трихинеллез. Такое заключение было сделано после проверки остатков мяса, которым угостили это семейство родственники из деревни. Мало того, к застолью они пригласили и свою соседку по подъезду. Мясо не было проверено ветеринарной службой — и вот печальный финал.

— Начинается летний огородно-дачный сезон, — замечает главный врач ГорСЭС В.М.ЧЕЛНОВ. — И потому ещё раз хочется предупредить жителей города: будьте осторожны и разборчивы в покупке и потреблении продуктов питания, соблюдайте правила личной гигиены. Особенно избегайте приобретения мяса и изделий из него у случайных торговцев. Свои услуги они, как правило, предлагают возле крупных универмагов, на стихийных рынках. Между тем, практически все мясо, которым торгуют на официальных рынках, особых опасений не вызывает. Здесь санитарно-ветеринарные службы не дремлют. Контроль проводится жесткий.

Опасность может затаиться и в продуктах с просроченным сроком годности. Потому обращайте внимание на их маркировку, дату выпуска и срок реализации. Мы часто делаем проверки и тщательно проверяем качество продуктов, как в государственных, так и в кооперативных магазинах. Но за всем не уследишь. То в одном, то в другом магазине выходит из строя холодильное оборудование. К тому же сейчас значительно потеплело, продукты быстро портятся. Если замучила жажда и захотелось отведать кваску, справьтесь у продавца о дате его выпуска. Или сами загляните в паспорт, который вывешивается на каждой бочке с этим напитком.

Особый разговор о необходимом прохождении профилактических прививок от инфекционных заболеваний. Кстати, сейчас эта кампания разворачивается. Поймите, такова необходимость, а отнюдь не наша прихоть. Сложилась очень напряженная обстановка по заболеваниям дифтерией, корью и острыми кишечными инфекциями. Как видите, дал знать о себе и столбняк. Людей, конечно, можно понять. Все напуганы угрозой СПИДа, отсутствием необходимого медицинского оборудования, дефицитом лекарств. Количество прививаемых неуклонно сокращается и сейчас достигает 70-80 процентов по разным возрастным группам. В то же время в так называемые застойные годы мы охватывали прививками более 90 процентов населения. Иммунная система у многих горожан ослаблена. Особой опасности подвергаются дети, родители которых избегают этой нехитрой процедуры. Поэтому настоятельно прошу — доверьтесь медикам. Прививки можно сделать по вашему месту жительства. В каждой поликлинике имеется специальный кабинет. Здесь созданы все необходимые условия, есть разовый инструментарий и шприцы, соответствующие вакцины.

**P.S. Уже начался купальный сезон. И здесь минчан тоже подстерегают «сюрпризы». В прошлом году в нескольких водоемах были обнаружены патогенные микроорганизмы. Врачи своевременно проинформировали об этом население и вынесли постановление по запрещению купания.**

**Вероятнее всего, такая же обстановка сложится и в этом году. Поэтому внимательно следите за сообщениями в нашей газете. За врачами дело не станет.**

• РОЗДУМ ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

# ЯК ДЗЯРЖАЎНЫ СЦЯГ НА СВЯТА НЕ ПУСЦІЛІ...

**АЛЕСЬ МІКАЛАЙЧАНКА, «ДВ».**

Вось і мінула свята Перамогі над карычневай чумою. Скажу па шчырасці, пакінула яно ў маёй душы даволі горкі асадак. Бо дзяржава, незалежная суверэнная Рэспубліка Беларусь у сваёй сталіцы праігнаравала ўласную нацыянальную сімволіку. Яшчэ напярэдадні святкавання, прайшоўшы па галоўнай магістралі Мінска ад Уручча да «старога» аэрапорта, я не ўбачыў ніводнага бела-чырвона-белага сцяга, ніводнага плаката з выявай дзяржаўнага герба «Пагоня». Акрамя як над уваходам некаторых афіцыйных устаноў.

Нашы чыноўнікі, высокія адказныя асобы, якія падчас замежных візітаў становяцца па стойцы «смирно» перад бела-чырвона-белым сцягам, калі тых у аэрапортах сустракаюць гаспадары, дома пасаромеліся «паліцайскага» сцяга. А як жа! Напярэдадні Перамогі ветэранская грамадскасць іх прасіла не вывешваць гэтыя сцягі, бо ваявалі яны пад іншым сцягам.

А ў 9.30 9 Мая на нейкага прыхільніка незалежнасці Беларусі, які адважыўся адсвяткаваць Перамогу сваіх дзядоў-бацькоў пад сцягам Рэспублікі Беларусь на плошчы Паўстання ў Гомелі, «набросились и флаг разорвали». Хаця, як паведамляе аўтар нататкаў «Война с символикой?», што надрукаваны ў газеце «Рэспубліка» за 11 мая г.г., яшчэ напярэдадні, «вечером 8 мая в Гомеле на улице Советской, по которой в День Победы должна была пройти праздничная колонна ветеранов, были видны бело-красно-белые флаги, другая символика Беларуси. К утру ее не стало».

Чаму?

Хутчэй за ўсё таму, што «блок левых сил в своем обращении в горисполком настаивал не применять ее 9 мая».

Калі яшчэ ў «Рэспубліцы» журналіст Уладзімір Бандарэнка проста канстатуе факт здзеку над дзяржаўным сцягам у Гомелі, то супрацоўніца «Советской Белоруссии» Людміла Маслюкова ў сваім «Покаянии перед седым воинством», распавядаючы пра святкаванне Дня Перамогі ў Мінску, з дрэнна схаваным захапленнем піша:

«...Ни один ветеран, ни дети их, ни внуки — никто не поднял государственного флага Республики Беларусь. Седое воинство, защитившее Отечество в 1941-1945 годах, не считает бело-красно-белый стяг своим. Для участников войны это невозможно. 27 июля 1942 года его как символ оккупированной Белоруссии утвердил палач белорусского народа Вильгельм Кубэ. В прошлом это знамя реяло над изменниками Родины, вдохновляя их на кровавые расправы с соотечественниками, мирными жителями. С теми, кого оно осеняло, воевали солдаты и партизаны. Сколько бы лет ни прошло, они не смогут встать под «Погоню». Право ветеранов относиться так к символам суверенной республики в День Победы все вынуждены были признать безоговорочно...»

Праўда, Людміла Маслюкова пільна заўважыла, што адзіны бела-чырвона-белы сцяг узвіўся над шарэнгай маладых воінаў, якія паўсталі каля Вечнага Агню, калі да яго «шагнул глава государства Станислав Шушкевич».

Як гаворыцца, ведай нашых! Наўкола святое воінства, тут жа праведніца-журналістка з «СБ», адзіны толькі здраднік беларускага народа вынайшаўся — нашчадак Вільгельма Кубэ — Станіслаў Шушкевіч. А можа яго бацька, беларускі паэт, таксама Станіслаў Шушкевіч, недарэмна добры кавалак свайго жыцця сядзеў у сібірскіх лагерах, ахоўнікі якіх так любілі савецкую сімволіку? А можа недарэмна пад сярпаста-малаткастымі сцягамі расстралялі ў трыццатых гадах палову Саюза пісьменнікаў Беларусі? А мільёны раскулачаных сялян? А яшчэ раней, у чэкісцкіх засценках, — святароў, заложнікаў, сярод якіх былі жанчыны і дзеці, ды парушальнікаў харчразвёрсткі? А чаму ніхто з нашага воінства або з бальшавіцкіх журналістаў у гэты дзень не прыгадалі, што верныя чырвонаму сцягу сталінскія сокалы напярэдадні вайны выразалі палову іхніх жа калег? Ці не для таго, каб нашых бацькоў паболей лягло ў жорсткай сечы з ворагам?

Так, — гэта горкая гісторыя чырвонага сцяга. Уласна, ён не вінаваты, што пад ім здзяйсняўся і генацыд, і гандаль беларускімі землямі. А колькі тых, хто трапіў у фашысцкі канцлагер паранены ці кантужаны, потым адбываў сваё ў канцлагерах на Калыме ды ў Комі АССР! Чаму мы ў гэты дзень не помнім гэтых людзей? Не помнім, якім сцягам яны абавязаны сваім паламаным жыццём?

Так, і бела-чырвона-белы сцяг скарысталі калабаранты, якія хацелі ў гітлераўскім хаўрусе стаць местачковымі панамі над беларускім народам. Але на рахунку ў нашага нацыянальнага сцяга ёсць перамогі — над татара-манголамі, нямецкімі псамі-рыцарамі, полчышчамі маскоўскіх стральцоў, гэты сцяг лунаў над атрадамі паўстанцаў Тадэвуша Касцюшкі і Кастуся Каліноўскага. Пад гэтым сцягам за сваю нацыянальную незалежнасць змагаліся супраць пілсудчыкаў дэмакраты Заходняй Беларусі...

Гэтымі думкамі я пасля падзяліўся з ветэранам Вялікай Айчыннай вайны, беларускім паэтам Артурам Вольскім. І ён мне адказаў на мае развагі і крыўды так:

— У такіх адносінах да нашай сімволікі вінаватыя не ветэраны вайны, якія перамаглі фашыстоўскіх крыжакоў. Вінаваты тыя, хто не расказаў людзям шчыра і сумленна ўсю гістарычную праўду пра беларускія сцягі і герб, вінаваты бальшавіцкія культуртрэгеры ды іх прыслужнікі з ліку журналістаў, якія спекулююць на фактах карыстання нашымі сцягам і гербам падраздзяленнямі калабарантаў, сярод якіх, дарэчы, былі людзі, што зводзілі рахункі за асабістыя драмы жыцця з камуністычнай і савецкай уладай, ды яшчэ людзі, якія наіўна думалі, што Гітлер дасць Беларусі незалежнасць або нейкую аўтаномію... Але ж успомнім, у чыіх толькі руках ні аказваўся сцяг той жа Францыі — і рэвалюцыянераў, і напалеонаў, і калабарантаў, і атрадаў Супраціўлення. Сцяг — непадсудны. Сцяг — сімвал пэўнага народа, а не ідэалогіі. Толькі з мысленнем інфузорыі-туфелькі можна думаць інакш.

Што ж, я дзесьці як чалавек разумею жанчыну Людмілу Маслюкову, якая, можа, супраць уласнай волі мусіць адпрацаваць «свой кавалак хлеба, які ёй падкідвае заснавальнік «Советской Белоруссии» Саўмін Рэспублікі Беларусь. Але хачу, каб чытачы ведалі, хто стаіць за спінаю такіх выступаў. А стаяць тыя, каму хочацца рэстаўрацыі на Беларусі і даволі моцна патрапанай камуністычнай ідэі, і аднаўлення палітыкі знішчэння беларусаў, як этнасу, і вяртання ў палітычны побыт бальшавіцкай сімволікі. Бальшавікі, па ўсяму відаць, маюць вялікую сімпатыю да кітайскай мадэлі сацыялізму. Мадэлі — дзе па-ранейшаму над усім і ўся пануе партыя, братняя той, што 70 з гакам гадоў непадзельна панавала на нашай зямлі, рассяваючы наўкола кроў, слёзы, Чарнобылі, Афганістаны, дзедаўшчыну, карупцыю. І над усім гэтым горам-бядою нахабна лунаў ненажэрна крывавы сцяг, упрыгожаны сімваламі рабскай паднявольнай працы!

Вось і хочацца мне, чалавеку, чые родныя-блізкія гінулі ад рук чырвоных і карычневых катаў, запытацца ў яшчэ жывых ветэранаў вайны: калі ж мы, нарэшце, зразумеем, што 9 мая павінна быць не толькі святам «со слезами на глазах», а і Днём Вялікай Жалобы па тых салдатах, мірных людзях ды цэлых народах, якія загінулі або рассеяліся па зямлі ад рук майстроў гітлераўскага ды сталінскага генацыду. Вось тады, скажу шчыра, не будзе ні спекуляцыі на перакананнях, ні вайны сімволік, бо калючаму дроту і крэматорыям — усё адно, якую сімволіку спавядаюць гінучыя ў іхніх пеклах бяспраўныя людзі...

• У НАШЫХ КАЛЕГ

## НОВАЯ СУСТРЭЧА

*і, спадзяёмся, не апошняя, адбылася ў газеты «К широкой оппозиции» са сваімі чытачамі.*

КСЕНІЯ МІХАЙЛАЎСКАЯ.

**Другі нумар гэтага выдання аддзяляе ад першага амаль паўгода. Адбіліся эканамічныя цяжкасці. Але нягледзячы на такую вялікую затрымку, газета, як сведчаць шматлікія звяртанні ў рэдакцыю, не забыта і знайшла свайго чытача.**

**Матэрыялы «К широкой оппозиции» па сваёй тэматыцы вострыя і разнастайныя. Таму што іх па-ранейшаму аб'ядноўвае адна мэта — абарона людзей, чыя годнасць пацярпела ад бязмежжа існуючых улад.**

**Такім чалавекам, напрыклад, з'яўляецца былы галоўны бухгалтар Мінскай гарадской калегіі адвакатаў Ларыса Перцава, якая 2870 дзён свайго жыцця прысвяціла барацьбе за свае правы. Аб тым, як разгортваліся падзеі гэтых сямі год, расказвае яна сама ў артыкуле «Казнь казуистикой».**

**Вядомы ў мінулым беларускі дысідэнт Міхаіл Кукабака, аўтар матэрыяла «Беженцы от Министерства обороны», уздымае праблему падаўлення чалавечага «Я» «адказнікоў».**

**Яшчэ не забыта таямнічае знікненне дакументаў аб рабоце Часовай камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па фактах выкарыстання псіхіятрыі ў палітычных рэпрэсіўных мэтах. Аб гэтым расказвае ў сваім артыкуле пазаштатны супрацоўнік гэтай камісіі Тамара Мілер у сваім артыкуле «О том, как жертвы психиатрии КПСС стали жертвами родного парламента».**

**І зноў газета вяртае свайго чытача да лёсу Мінскага завода колавых цягачоў. Свой погляд на склаўшуюся сітуацыю выказвае дырэктар знешнеэканамічнай Асацыяцыі «Сахалинский эксперимент» Вячаслаў Фядорчанка ў інтэрв'ю з журналістам, якое называецца «Наша работа нужна любой власти».**

**Аб буднях прафсаюза Канфедэрацыі працы Беларусі разважаюць яго прадстаўнікі Алег Шакалаў і Яфім Поляк, які адначасова з'яўляецца і каардынатарам рэспубліканскай Асацыяцыі па абароне ад беспрацоў'я. Ад гэтай хваробы сёння, бадай, ніхто не застрахаваны, таму артыкул «Дальше рабочего места отступать некуда» будзе цікавым шмат для каго.**

**«Кто у штурвала экономики?» — задаецца пытаннем юрыст Людміла Касяк. А пытанне, як гаворыцца, да часу. Калі улічваць, што гутарка пойдзе аб служыцелях Феміды ў сістэме гаспадарчых судоў. Аказваецца, і яны хутка зарыентаваліся наконт таго, як можна выкарыстоўваць сваю службовую пасаду ў карыслівых мэтах.**

*Газета «К широкой оппозиции» выдана 10-тысячным тыражом і распаўсюджваецца праз рэспубліканскі Фонд свабоднай інфармацыі і праваабароны. Тэлефон для даведак 390-371.*

• ТРАНСПОРТ

*Все новые авиалинии связывают белорусскую столицу с разными городами мира. Этому способствует ввод в строй международного аэропорта «Минск-2» (на снимке).*

**Фото Аркадия НИКОЛАЕВА, БЕЛИНФОРМ.**

• СИТУАЦИЯ

# НЕ ПРИЗНАННЫЙ, НО ЖИВОЙ

**ТАМАРА МАРКИНА.**

Такой сакраментальной фразой можно определить состояние Минского завода колесных тягачей.

Мы строим демократическое государство. В силу этого для цивилизованного разрешения спорных конфликтов все чаще будем обращаться в суды. По производственным спорам — в хозяйственные, по межличностным — в народные.

Пока стопроцентной демократии нет. А хочется. Очень нам нужно, чтобы суд честно, непредвзято и профессионально черное назвал черным, а белое — белым. Дефицит этих качеств у наших судов, неотработанность законодательных норм стали причиной ряда парадоксальных ситуаций.

Одна из них создана вокруг Минского завода колесных тягачей. Последний Госкомитетом РБ по промышленности и межотраслевым связям решено преобразовать в два производства: специальных колесных тягачей и городских и международных автобусов. С присоединением их к Минскому автомобильному заводу. Коллектив Минского завода колесных тягачей (МЗКТ) против.

Вот уже 4 месяца белорусская Фемида не может дать четкого ответа: кто прав, а кто нет. А завод между тем, не растворившись в законодательном вакууме, работает, выпускает продукцию. Не признанный правительством, но живой.

Свое мнение об этой ситуации сегодня на страницах «ДВ» высказывает председатель совета отраслевого профсоюза работников автомобильного, тракторного и сельскохозяйственного машиностроения Александр Иванович Бухвостов.

— Разрешение конфликта началось с проведения примирительной комиссии, результаты которой, однако, не удовлетворили ни одну из сторон. В соответствии с законодательством стал вопрос о трудовом арбитраже. Представитель Госкомпрома в арбитраж не явился, хотя и был предупрежден. Далее трудовой коллектив МЗКТ обратился в Высший хозяйственный суд Беларуси. Однако хозяйственный суд вынес решение: данный конфликт должен рассматривать народный суд. Обращение МЗКТ в народный суд дало прямо противоположный ответ: сей конфликт может решать только хозяйственный суд. Вот он, наглядный пример несовершенства нашего трудового законодательства.

А между тем мятежный завод по-прежнему выпускает свою, пользующуюся спросом на СНГовском рынке, продукцию. Осваивается и новая — автомобильные краны — дефицит на нашем белорусском рынке. И очень обидно, что правительство начинает не замечать, игнорировать МЗКТ по важным экономическим проблемам. Проще всего ломать, как раньше, как во времена командно-административной системы, структурные подразделения, не прислушиваясь к мнению специалистов завода, не учитывая планов предприятия.

— Александр Иванович, но ведь на Западе, который с недавних пор стал для нас ориентиром, решение о преобразовании либо перепрофилировании предприятия — прерогатива собственника, а не коллектива. А МЗКТ — завод государственный.

— Однако государство должно учитывать как экономическую целесообразность, так и интересы коллектива или, по крайней мере, согласовывать с профсоюзами. Даже на Западе таким образом, как в данном случае, не решают судьбу предприятия, а учитывают его интересы. Кстати, конференция трудового коллектива МЗКТ пришла к мнению, что завод готов выполнять любое задание, в том числе и заняться производством автобусов, но требует одного: работать единым коллективом, сохраняя свой неделимый статус.

На будущее у коллектива есть намерение по изменению формы собственности. И это нам нужно учитывать.

— МЗКТ существует всего несколько лет. Долгое время он был структурным подразделением МАЗа. Не явилось ли его рождение результатом не до конца просчитанного решения? Ведь пойдя на это, Минский автомобильный, владеющий не самым современным оборудованием, лишился наиболее перспективного — гибких производственных систем. А значит, и будущих прибылей...

— Не думаю, что решение было непродуманным. МЗКТ слишком специфичное производство. Он производит тягачи, которые сильно отличаются от автомобилей, производимых МАЗом. Тем более, что с этого завода на МАЗ шло продукции гораздо меньше, чем оттуда на МЗКТ. Наши предложения можно сравнивать с гаданием на кофейной гуще. Нужны экономические и социальные обоснования присоединения МЗКТ к МАЗу. Их Госкомпром не дал. Он же и нарушил ст.8 Закона о профсоюзах, предварительно не согласовав с профсоюзами свое решение о реорганизации предприятия. Это признал Высший хозяйственный суд республики в своем постановлении.

Коллектив обрадовался: справедливость восторжествовала. Но затем, скорее всего под давлением правительства, Высший хозяйственный суд выдал свое второе постановление, в котором хотел угодить и вашим, и нашим. В нем был признан недействительным первый пункт приказа о преобразовании МЗКТ и присоединении его к МАЗу. Однако остальные, в т.ч. «считать МАЗ правопреемником МЗКТ, освободить директора МЗКТ от занимаемой должности», — признаны правомочными. Вот так и получилось: завод, вроде бы, и есть и вместе с тем его нет.

Новых решений Госкомпрома на сей счет нет. Как не представлено ни коллективу, ни профсоюзу экономического обоснования о необходимости реорганизации МЗКТ и присоединении его к МАЗу. Я придерживаюсь одного мнения: все должны быть законопослушными — и правительство, и предприятия.

С другой стороны, в нашей промышленности есть ряд незагруженных мощностей, незавершенные строительства. В частности, Осиповичский завод автомобильных агрегатов. Незавершенные промышленные обьекты есть в Жодино. Дерзайте, осваивайте, создавайте новые рабочие места. И это будет, на мой взгляд, более разумный подход, чем структурная ломка предприятий, которые в этом не нуждаются...

• ЭКАНОМІКА І КУЛЬТУРА

# ЗА БЕЛЫМ ПАЛАТНОМ ЭКРАНА

**УЛАДЗІМІР ХОДАН, дырэктар кінатэатра «Кастрычнік».**

*Малалюдна ля кас кінатэатра «Кастрычнік». Толькі там, дзе купляюць валюту, некалькі чалавек. Як жа зводзіць канцы з канцамі? Калі ўлічыць тэндэнцыю, назіраемую ва ўсім свеце, што наведваемасць кінатэатраў падае (вельмі цяжка канкурыраваць з кабельным ды спадарожнікавым тэлебачаннем, відэа), перспектывы, здаецца, нярадасныя. Але наш «Кастрычнік» жыве, працуе.*

Вядома, колькасць гледачоў вельмі залежыць ад пары года: вясной і летам — змяншаецца, восенню і зімой — павялічваецца.

Вось і да нас, у буйнейшую кіназалу Мінска (1344 месцы) на сем сеансаў за вясновы дзень прыходзіць усяго каля дзвюх тысяч гледачоў. Перамножце гэту колькасць на кошт білета — яна з дзесятага мая 150 рублёў, — адніміце льготнікаў (першы сеанс ільготны для ўсіх, наступныя — пры наяўнасці адпаведных дакументаў) — вось дзённы даход.

«Кастрычнік» ужо год як арэнднае прадпрыемства. З бюджэту мы нічога не атрымліваем, але падаткі ў яго плацім спаўна. І, у адрозненне ад бюджэтных кінатэатраў, не маем аніякіх скідак па іх уплаце, па кошту электраэнергіі і цяпла (плацім за іх як прамысловае прадпрыемства). Фільмы ж паказваем гледачу аднолькавыя.

Кожнае павелічэнне мінімальнай зарплаты выклікае ланцуговую рэакцыю. Даражэе ўсё: вываз смецця, ахова, друкаванне білетаў і рэкламных матэрыялаў, прывоз фільмаў і г.д. Ды і сваім супрацоўнікам плаціць трэба. Персанал скарочаны да мінімуму, але ж вялікія плошчы, складаная і разнастайная тэхніка патрабуюць адпаведнай колькасці спецыялістаў, вялікіх затрат.

Самі выконваем бягучы рамонт кінатэатра; адрамантавалі кроўлю, замянілі сантэхніку. На чарзе — тэхналагічны басейн і галерэі пры выхадзе з глядзельнай залы. Між іншым, за кошт сваіх прыбыткаў і крэдыту завяршаем рэканструкцыю кінатэатра «Змена».

Цяпер наша фінансавае становішча цалкам залежыць ад гледача. Больш 70 працэнтаў даходу дае асноўная дзейнасць — паказ фільмаў. Таму вельмі шмат увагі надаём іх рэкламе — праз газеты, шчыты ў падземных пераходах, светлавую газету, рэкламныя ролікі, радыётрансляцыі ў фае. Ствараем камфортныя ўмовы: утульнае фае са зручнай мэбляй, цікавыя, рэгулярна змяняемыя выставы, зімовы сад, дзе ёсць два вальеры з папугайчыкамі, добрае меню ў буфеце. І, канешне ж, кінапрэм'еры. Так, новыя кінастужкі «Беларусьфільма» па традыцыі спачатку ідуць на нашым экране. І збіраюць поўную залу. У красавіку сумесна з Беларускім цэнтрам маладых кінематаграфістаў паспяхова арганізавалі прэм'ерны паказ фільма «Хачу ў Амерыку».

Каб звесці неяк канцы з канцамі, прадстаўляем залу і сцэну для розных мерапрыемстваў, праводзім інфармацыйна-забаўляльныя праграмы. Вельмі прэстыжныя, з цікавай праграмай, квадрафанічным гучаннем і выявай танцуючых на тэлеэкране, з апошнімі навінкамі танцавальнай музыкі. Стварылі свой тэлевідэацэнтр і цяпер робім тэлевізійную і відэарэкламу.

Але арэнднае прадпрыемства «Кастрычнік» не зарабляе грошы любымі шляхамі. Так, з фае ўбралі ігральныя аўтаматы (яны перашкаджалі чакаючым пачатку сеанса), а з меню буфета — гарэлку і лікёра-гарэлачныя вырабы. Гэта паўмера, бо гарэлку купіць ля кінатэатра не праблема. Таму часам здараюцца разборкі на дыскатэцы, дня не было, каб не парэзалі крэсла. А знайсці вінілскуру для рамонту, зрабіць так, каб шво не было бачна — праблема. Таксама часта рамантуем лаўкі, якія стаяць ля кінатэатра, хоць гэта і не наша ўласнасць.

І ўсё ж галоўнае, дзеля чаго і прыходзяць у кіно — новы фільм. Старая сістэма кінапракату знікла, новая — яшчэ не адпрацавана. Галоўны элемент у ёй сёння — кінарынак. Іх, гэтых рынкаў, больш нагадваючых базар, у СНГ адбываецца не менш двух у месяц. Камандзіроўка, акрэдытацыя на ім каштуюць дорага. Сярод прадаўцоў хто хочаш — незалежныя кінастудыі і прыватныя асобы, таварыствы з абмежаванай адказнасцю і нават калгасы. Фільмаў прапануецца шмат, але добрых мала і яны вельмі дарагія (вытворчасць іх каштуе вялізныя сумы). Амаль няма дзіцячых фільмаў, бо яны нявыгадны вытворцам.

Выбар вялікі, але і складаны — 200-300 і больш фільмаў не перагледзіш, а па анатацыях меркаваць цяжка. Замежныя фільмы прадаюць пакетамі адразу па некалькі штук. Прычым пракат большай часткі фільмаў пакета сябе не апраўдвае, а меншай — перакрывае ўсе выдаткі. Права на пракат па Беларусі і копія фільма каштуюць некалькі мільёнаў. Пасля прагляду кіназнаўцамі ў Мінску фільму прысвойваецца пэўная катэгорыя, і ён трапляе на экран. А стратэгія пракату даволі складаная. Ад яе залежыць, што будзе — прыбытак або страты. Тыдзень ідзе новы фільм у «Кастрычніку». Потым перадаецца ў наступны кінатэатр. У сярэднім за тыдзень глядач можа паглядзець у «Кастрычніку» два новыя фільмы. Хацелася б большага разумення нашых праблем і падтрымкі з боку дзяржаўных органаў, якія займаюцца пытаннямі культуры. Не адмовіліся б ад іх дапамогі як у развіцці матэрыяльнай базы, так і ў набыцці фільмаў, асабліва складаных, якія не здольны сабраць поўную залу. (Гэта датычыць і фільмаў вытворчасці нацыянальнага кінематографа). Калі хочам мець культуру, то трэба клапаціцца аб ёй, дапамагаць, укладваць у яе грошы.

А наогул: хапіла б хлеба, а цікавыя відовішчы ў кінатэатры «Кастрычнік» заўсёды будуць.

• ПО РЕСПУБЛИКЕ БЕЛАРУСЬ

## Денег, как видно, не хватает

В Гомельской области на ликвидацию последствий чернобыльской катастрофы использовано в первом квартале лишь 15 процентов госкапвложений от лимита на год.

Из 650 тысяч жителей Гомельщины, пострадавших в результате катастрофы на ЧАЭС, предполагается оздоровить 305 тысяч человек. На остальных не хватает денег.

В области готовятся к открытию лишь 35 из 64 оздоровительных лагерей.

## Не все потеряно, когда живет поэзия

**Несмотря на дороговизну, беспрерывный рост цен, наши люди не теряют надежды на лучшее будущее. Этим можно объяснить третий по счету выход в свет книги поэзии «Рунь-93», которую подготовило поставское литературное объединение. В альманахе объемом 5 печатных листов представлено 16 поэтов — людей разного возраста, и совсем новичков, и тех, кто уже известен по публикациям в республиканской печати. Открывает сборник выступление народного писателя Беларуси Максима Танка.**

## От экскаватора к сковороде

Похоже, китайский опыт производства металла потихоньку прививается и у нас. Вот и на Лепельском экскаваторно-ремонтном заводе ввели в действие собственную металлоплавильную установку. Это, конечно, не мартен, но заводская мини-домна сможет изготавливать ряд дефицитных изделий, среди которых и необходимые для каждой хозяйки сковородки. Одновременно на заводе наладили выпуск кормораздатчиков, имеющих устойчивый спрос у крестьян.

## ОСТОРОЖНО! СУПЕРПОДДЕЛКИ

**АНАТОЛИЙ ДРОЗДОВ.**

*Бывает, доллар или марку можно забраковать с первого взгляда. Но в последнее время все чаще криминалисты МВД Беларуси находят суперподделки. Изготавливают их за границей, можно сказать, на государственном уровне. И только зная технологию, имея определенные навыки, можно распознать фальшивку.*

*Около полутысячи экспертиз провел заместитель начальника отдела технико-криминалистического сопровождения и раскрытия преступлений МВД майор милиции Михаил Григорьевич Лагуновский. Более двадцати тысяч билетов оказались фальшивыми.*

**НА СНИМКЕ: М.Лагуновский изучает новую партию долларов, подозреваемых фальшивыми. Фото автора.**

